*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2019, № 5(39). Травень

## Скандальны матч 1929-га

Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г., № 1(23), № 2(24), № 6(28), № 7(29), 2018 г.*



У папярэдняй частцы нарысу гаворка ішла пра футбол у Слоніме ў 1929 годзе. Удалося знайсці нечаканыя падрабязнасці аднаго са згаданых матчаў. У жніўні слонімскі ŻKS (Яўрэйскі спартыўны клуб) прымаў Makabi з Навагрудка, была зафіксаваная нічыя 1:1. Гульню нібыта датэрмінова спынілі з-за буры.[1] Аднак у “Навагрудскім кур’еры” знайшлася карэспандэнцыя са Слоніма, прысвечаная таварыскаму паядынку, які прайшоў 10 жніўня.[2] З яе вынікае, што госці мэтанакіравана вельмі жорстка гулялі, за што ім рабіў заўвагі суддзя пан Б. Любоўскі. Але гульцы “Макабі” на гэта не рэагавалі. Справа ішла да бойкі, гледачы (сярод іх было шмат моладзі) пачалі пакідаць вайсковы стадыён. За 25 хвілін да фінальнага свістка суддзя спыніў паядынак.

Праз два дні ў газеце была апублікаваная зацемка з пазіцыяй навагрудскай каманды.[3] З яе вынікае, што груба сябе паводзіў толькі адзін гулец, які абразіў суддзю. Але капітан яго адправіў з поля. Заўзятары сышлі з-за залевы, а слонімскія футбалісты — пасля прызначанага ў іх браму пенальці…

*Працяг на ст. 4.*

**Awanturnicze zawody sportowe**

SŁONIM (kor. wł.) Na zaproszenie Słonimskiego Żydowskiego Klubu Sportowego przyjechała do Słonima Nowogródzka Drużyna Sportowa „Makkabi" na koleżeński match piłki nożnej, który w dn. 10 b. m. odbył się na boisku poza koszarami.

Dzięki dopisującej pogodzie na boisko licznie przybyła miejscowa młodzież, którą zawody te specjalnie ciekawiły.

Match rozpoczął się na parę nie wyćwiczoną odrazu zrewanżowała się, dając gola Makkabi. Wówczas kapitan drużyny nowogródzkiej, wezwał swoich kolegów do brutalnej gry i tu dopiero rozpoczęła się ona na zasadzie prawa pięści. Widząc, że się zapowiada na formalną bójkę sędzia p. Lubowski zwracał kilkakrotnie uwagę „kapitana" na nietaktowne i arogan[c]kie zachowanie się, lecz napomnienia te skutku nie odniosły, a

ХРОНІКА

## Жыровіцкі фэст



20 траўня ў Жыровічах адзначалі традыцыйнае свята, прысвечанае з'яўленню цудатворнай Жыровіцкай іконы Божай Маці.

## Макет помніка







Выраблены макет помніка архімандрыту Серафіму Жыровіцкаму, які ўсталююць у Жыровічах. Яго аўтар — скульптар з Мінска Дзмітрый Урублеўскі.

## Кніга пра слонімскіх літаратараў




У пачатку траўня Сяргей Чыгрын выдаў новую кнігу — “Літаратурная Слонімшчына”, прысвечаную творачасці мясцовых паэтаў і пісьменнікаў, якія жылі і займаліся творчасцю ў мінулым стагоддзі.




## Летам выйдуць слонімскія марка і канверт

Да Дня беларускага пісьменства і друку, якое 1 верасня пройдзе ў Слоніме, “Белпошта” выдасць у серыі “Гарады Беларусі” марку, прысвечаную нашаму гораду. Яе выхад запланаваны на ліпень. А ў жніўні з'явіцца слонімскі канверт. На іх пабачым герб горада, храмы, будынкі тэатра і вакзала.

●Генадзь Гурскі

# Слонім арыгінальна рыхтуецца да беларускага свята




Да свята беларускага пісьменства і друку застаецца яшчэ некалькі месяцаў. Наш горад да яго рыхтуецца. Рыхтуецца вельмі арыгінальна, ствараючы інфармацыйныя нагоды для цэнтральных СМІ. Спачатку Слонім праславіўся галасаваннем наконт Тэатральнай плошчы*, нядаўна шакіраваў вялізным графіці, якое з'явілася на сцяне дома па Чырвонаармейскай вуліцы (недалёка ад галоўнай пляцоўкі свята). Пытанне не да малюнку, а да мовы надпісу. Яго не маглі зрабіць самачынна, нехта зацвярджаў тэкст. Слонімскія чыноўнікі яшчэ не зразумелі, якое свята ім трэба правесці 1 верасня? Рэспубліканскае беларускае свята, на якім галоўнае — беларуская мова! Дык чаму зрабілі на графіці рускамоўны надпіс?

*"Квітнеючая краіна абсурду",* — так пракаментаваў графіці ў Слоніме адзін з чытачоў сайта nn.by. Гэта нам падаецца, што сітуацыя абсурдная. Гэта тысячы гасцей свята былі б збянтэжаныя. А чыноўніку, відаць, усё бачыцца інакш. Можна гаварыць па-руску, але прыхільна ставіцца да беларускай мовы і культуры, падтрымліваць іх. Ёсць нямала гарадоў, дзе так і адбываецца. Што са Слонімам не так?..

Чыноўнікі скажуць, што на святе яны выступяць на беларускай мове. Выдатна. Але іх прамовы забудуцца, а графіці на сцяне засталося б. На шчасце адказныя асобы пад ціскам грамадскай думкі (афіцыйная версія) перадумалі, паабяцалі, што надпіс усё ж будзе беларускамоўны.

●Сяргей Ёрш

**Ёрш С. Зноў пра Тэатральную плошчу // Слонімскі край, 2019, № 4(38). Красавік. С. 3.*



# Скандальны матч 1929-га

Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак на ст.1.*

Ужо 17 жніўня навагрудскае Makabi гуляла са сваімі землякамі з PKS. І зноў яўрэйскія футбалісты (як і іх заўзятары) паводзілі сябе груба, абражалі суддзю. Матч быў датэрмінова скончаны пасля таго, як на поле выбеглі заўзятары. У рэпартажы пра гэтае здарэнне згадалі паядынак у Слоніме. Быў змешчаны заклік да футбольных каманд аб'явіць навагрудскаму "Макабі" байкот.[4] Нешта падобнае здарылася праз год у Баранавічах. Мясцовая "Макабі" прымала аднаклубнікаў з Гродна. У канцы паядынку на поле выбеглі заўзятары і кіямі пачалі біць футбалістаў гасцей. Парадак навяла паліцыя.[5]

Апошняе слова засталося за слонімцамі. У чарговай заcемцы пра скандальны матч яны адрэагавалі на публікацыю з пазіцыяй "Макабі", якая іх абурыла. Паядынак у Слоніме быў названы "брутальным" і падкрэслівалася, што гэтая ацэнка яшчэ занадта "лагодная". Прыводзіўся спіс футбалістаў ŻKS, якія пацярпелі падчас гульні: Rawicki J., Zelikowski R., Minc S., Dukies L., Zakrojski M.[6]

28 верасня гулец "Макабі" Ірма Шмулевіч ударыў у твар брамніка зборнай Навагрудка Адама Сальмановіча і той страціў прытомнасць. Матч быў спынены, пацярпелага завезлі з бальніцу, на хулігана склалі пратакол.[7]

●Сяргей Ёрш

**Słonim. Makabi (Nowogródek) — Ż. K. S. 1:1. Mecz z powodu burzy został przerwany. Wyróżnili się Rawicki II i Mina (Ż. K. S.) oraz Delatycki (Mak.).**

## Awantura na meczu w Słonimie.

Otrzymujemy pismo z prośbą o zamieszczenie:

Czytając w ostatnim numerze Życia Nowogródzkiego korespondencję ze Słonima o zawodach piłki nożnej pomiędzy drużynami „Makabi" z Nowogródka i Ż. K. S. ze Słonima, zmuszony jestem jako objektywny widz umieścić następujące wyjaśnienie. Nowogródzka drużyna „Makabi" zachowała się w stosunku do drużyny „Ż.K.S.—Słonim" bez zarzutu, za wyjątkiem jednego zapalczywego gracza który obraził sędziego, nie chcąc podporządkować się jego rozkazom. Na rozkaz kapitana drużyny „Makabi", który zaraz interwenjował ny rzecz sędziego, gracz tenopuścił boisko i przez to incydent ten został zlikwidowany.

W dalszym ciągu gra toczyła się normalnie, aż „Ż.K.S.—Słonim" opuścił boisko w chwili przysączenia rzutu karnego na jego niekorzyść. Publiczność zaś opuściła plac sportowy wskutek ulewy.

## Zajścia na meczu piłki nożnej

Wczoraj o godz. 5-ej minut 25 rozpoczął się na boisku „Sokoła" mecz piłki nożnej pomiędzy drużynami P.K.S. i Makkabi. Do przerwy gra toczyła się bez większego ożywienia i planowości i ożywiła się dopiero po strzeleniu przez Makkabi gola. Po przerwie przewaga przechodzi na stronę P.K.S., który energicznie atakuje. Zaciekła gra toczy się przeważnie około bramki Makkabi.

Tymczasem zgromadzona w wielkiej ilości publiczność żydowska przeważnie młodzież zaczyna czynnie występować po stronie Makkabi, podnosząc straszny wrzask i obrzucając sędziego najrozmaitszemi wyzwiskami.

Gra drużyn, Makkabi podniecanej i zachęcanej przez widzów do brutalnej gry i irytowanego ciągłym wrzaskiem P.K.S. u zaczyna stawać się co raz bardziej brutalną.

Sędzia usuwa z boiska na 10 minut jednego gra za Makkabi. Rozwydrzenie publiczności dochodzi do tego stopnia, że obrzuca sędziego, który usiłuje poskromić brutalność graczy piaskiem.

Po usunięciu z boiska 2-go gracza Makkabi Berka Joselowicza na 30 minut za obrazę sędziego publiczność tłumnie rzuca się na boisko. Gracze P.K.S. bezskutecznie usiłują usunąć z placu wrzeszczący i wygrażający tłum, który uniemożliwia dalszą grę. Sędziował p. A. Pleskacz o tyle dobrze, o ile to było możliwem w podobnych okolicznościach.

Zachowanie się Makkabi w czasie gry spotykało się już niejednokrotnie z wielu zastrzeżeniami, że tylko wspomnimy ostatni mecz w Słonimie gdzie gracze „Makkabi" skompromitowali się zupełnie. — W Nowogródku dochodzi jeszcze plugawe zachowanie się publiczności żydowskiej godne najwyższego potępienia.

W sprawę tę winny wdać się władze sportowe i zabronić wszystkim drużynom dawania pola graczom z „Makkabi".

*[1] Ёрш С. Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады) // Слонімскі край, 2018, № 7. Ліпень. С. 5.*

*[2] Awanturnicze zawody*

*sportowe // Zycie Nowogródzkie, 1929, № 220, 12 жніўня.*
*[3] Awantura na meczu w Słonimie // Zycie Nowogródzkie, 1929, № 222, 14 жніўня.*
*[4] Zajścia na meczu piłki nożnej // Zycie Nowogródzkie, 1929, № 226, 18 жніўня.*
*[5] Zycie Nowogródzkie, 1930, № 204, 3 верасня.*
*[6] Jeszcze o grze "Makabi" nowogródzkiego w Słonimie // Zycie Nowogródzkie, 1929, № 229, 21 жніўня.*
*[7] Sport czy chuliganerja? Co na władze sportowe? // Zycie Nowogródzkie, 1929, № 268, 29 верасня.*


ZYCIE NOWOGRÓDZKIE

**Jeszcze o grze „Makabi" nowogródzkiego w Słonimie**

W związku z umieszczoną przed paru dniami na szpaltach „Życia Nowogródzkiego" krytyką gry „Makabi" w Słonimie, otrzymujemy następujące wy-

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты



Падчас нямецкай акупацыі ў 1916-1918 гадах у Баранавічах выдавалася газета, якая пісала і пра Слонім. Спачатку яна называлася "Deutsche Kriegszeitung von Baranowitschi" ("Нямецкая ваенная газета ў Баранавічах"), пасля — "Kriegszeitung von Baranowitschi" ("Ваенная газета ў Баранавічах"). У "СК" ужо былі дзве публікацыі на гэтую тэму.* З гэтага нумару працягваем знаёміць чытачоў са "слонімскімі карэспандэнцыямі".




Здымак, які бачыце зверху, быў змешчаны ў 62-м нумары ад 2 жніўня 1916-га. Ім праілюстравалі артыкул пра баі з рускімі войскамі ў папярэднім годзе. Падпісана, што гэта Слонім 20 верасня 1915 года. Наш чытач Ігар Падгарадзецкі мяркуе, што на фота бачым былы кляштар бенедыктынак (пасля — СШ № 1, ліцэй), яго выгляд з боку баранавіцкага мосту. І гэта падобна на праўду. Справа бачым Шчару, злева — былы бернардынскі касцёл (цяперашні Свята-Троіцкі сабор).

**Ёрш С. Слонім на старонках нямецкай газеты 1916-1918 гадоў. С. 1, 6-7 // Слонімскі край, 2016, № 4. Травень. С. 1, 6-7; Ёрш С. Слонімшчына на малюнках нямецкіх вайскоўцаў Першай сусветнай вайны // Слонімскі край, 2017, № 7(17). Ліпень. С. 4.*

*Працяг. Пачатак у №№ 2, 3, 4, 2019 г.*

ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

# Шляхамі Ордаў









## Апошні ўладальнік маёнтка Дзеравянчыцы

Стацкі дарадца Пётр Апалінар’евіч Орда памёр 30 лістапада 1870 года, а судовую спрэчку пра дазвол праводзіць набажэнствы ў капліцы працягваў яго сын Іосіф Пятровіч Орда. У сваім гістарычным нарысе “Рымска-каталіцкая царква ў Беларусі (другая палова XIX — пачатак XX стагоддзяў)” А. Ганчар піша: “Гродзенскі і Брэсцкі праваслаўны біскуп 8 лютага 1904 года паведамляў, што *“для ўладальніка маёнтка Дзеравянчыцы Іосіфа Орды, як чалавека вельмі заможнага, і не складзе цяжкасцяў здзяйсняць памінальныя набажэнствы па памерлых сваяках у адным са слонімскіх касцёлаў”*. Звычайная знешняя ўрачыстасць рымска-каталіцкага набажэнства, па ўпэўненасці біскупа, прыцягвала б навакольнае праваслаўнае насельніцтва і *“шкодным чынам магла адбіцца на праваслаўна-рускай дзейнасці”* не толькі ў Слонімскай, але і ў суседніх парафіях. З гэтай прычыны хадайніцтва Іосіфа Орды вынікала пакінуць без задавальнення.

Відаць, набажэнствы ўсё роўна вяліся насуперак усім забаронам. Раман Юркоўскі ў артыкуле “Як каталіцкае насельніцтва епархіі вітала свайго біскупа ў 1905 і 1906 гадах” узгадвае: “8 верасня 1906 года біскуп позна ўвечары прыбыў у капліцу ў маёнтак Ордаў Дзеравянчыцы. Крывавы месяц і выкінутае на задні план цёмнае неба, прадвяшчалі прыгожае асвятленне. І, сапраўды, праз некаторы час перад намі адкрыўся выдатны від: у вялікай прасторы па абодва бакі дарогі, ад капліцы, гарэлі агні, падобныя на доўгі пажарны мост. Дым акутаў шэрыя палі. Па дарозе ў капліцу нас чакаў ксёндз М. Руткоўскі ў царкоўнай вопратцы, спадары Орды і некалькі грамадзян. Лямпы асвятлялі фасады храма і пляцоўку перад ім. Ярка свяціўся фасад і агароджа капліцы ад тысячы агнёў, а святло знутры царквы пакідала яркую паласу на дорозе”.

Іосіф Орда прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1863 года. А пасля таго, як паўстанне было задушана, быў вымушаны эмігрыраваць у Парыж. 1 снежня 1874 года маёнтак Дзеравянчыцы перайшоў ва ўладанне Іосіфа Орды. Ён пачынае актыўную гаспадарчую дзейнасць, скупку земляў суседняга маёнтка Плябанка і ўрочышча “Падглоўсевічы” Жыровіцкай воласці ў 1890 годзе. Але ўжо ў перыяд 1898-1905 гадоў гэтыя землі будуць выстаўлены для продажу. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродна захоўваюцца дакументы — *“Справа паводле просьбы паверанага двараніна Орды Іосіфа Пятровіча аб памяншэнні памеру пазямельнага збору па маёнтку Дзеравянчыцы Слонімскага павета ў сувязі з продажам зямлі з дадзенага маёнтка”.* Так, у 1905 годзе старэйшы натарыус Гродзенскага акруговага суда дакладваў, што маёнтак Плябанка набыў Сцяпан Кандрацьевіч Галоўчын, яшчэ 12 дзесяцін зямлі дваранін Орда прадаў сялянам з вёскі Рахавічы. У 1910 годзе ён набыў у Беластоку дом па вуліцы Сянкевіча, а ў 1919-м стаў там жыць. Калі ён памёр, 27 траўня 1927 года, пра яго адклікаліся так: *“…сышоў адзін з апошніх старцаў, у самым добрым сэнсе гэтага слова, бездакорна высакародны, для роўнага брата лепшы, для самых маленькіх — бацька і апякун”*. У Іосіфа Орды і яго жонкі Марыі (Свентаржэцкай) не было дзяцей, таму яны перапісалі маёнтак пляменніку жонкі, хрэсніку Іяхіму Абязерскаму, але той здаваў маёнтак у арэнду абшарнікам Ельскім. Іосіф Орда і яго жонка Марыя былі пахаваны ў радавой капліцы разам з бацькамі.

## Напалеон Орда і Слонімшчына

Кожны народ мае ў сваёй гісторыі асоб, якімі ён ганарыцца. Патрыётам беларускай зямлі, чалавекам, які прысвяціў свой лёс любай радзіме, з‘яўляецца Напалеон Орда.

У 1856 годзе расійскі імператар Аляксандр II абвясціў



*Напалеон Орда*

ўдзельнікам паўстання 1830-1831 гадоў амністыю, і Напалеон Орда ў 49-гадовым узросце вярнуўся на радзіму. Пасля смерці маці маёнтак Варацэвічы (цяпер у складзе Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці) быў канфіскаваны, і Напалеон Орда пачынае вандроўкі па родным краі, жыве ў сваякоў і сяброў. Мастак пачынае плённую працу: ён абышоў і аб’ездзіў усю Беларусь, Літву, Польшчу, Украіну. Аднымі з першых з‘яўляюцца малюнкі Гродзеншчыны. Вынікам яго вандровак па роднай Беларусі з‘явіўся багаты збор твораў: больш за тысячу малюнкаў замкаў, маёнткаў, храмаў і капліц. Вялікая колькасць карцін напісана ў перыяд 1861-1877 гадоў.

У грамадскім асяроддзі ўжо

# Шляхамі Ордаў

*Працяг, пачатак на ст. 6-7*

даўно быў адчувальны подых паўстанцкай навальніцы. Узброенаму паўстанню 1863 года папярэднічаў даволі доўгі падрыхтоўчы перыяд. Што ў гэты час робіць Напалеон Орда? Ён малюе замкі і сядзібы Гродзеншчыны, сустракаецца з іх уладальнікамі і рыхтуецца да паўстання ў родным краі, выступае як сувязны паміж будучымі мясцовымі паўстанцамі. Бачна, што ён робіць накіды на малюнках, а завяршае свае эскізы мастак ужо не з натуры, а хутчэй па памяці. Гэтыя будынкі, якія ён адлюстраваў на сваіх карцінах, могуць быць месцам пражывання мастака ў сяброў, якіх ён наведваў падчас вандровак. Упэўнена, што кожны малюнак Орды нясе нам нейкую інфармацыю пра мастака і яго думкі ў той час. Серыя карцін Гродзеншчыны мае своеасаблівы яркі каларыт. У іншыя перыяды творчасці мастака мы ўжо не ўбачым такіх яркіх фарбаў.

Варта звярнуць увагу і на тое, што Орда часта маляваў архітэктурныя помнікі, якія мелі дачыненне і да яго ўласнай біяграфіі.У перыяд з 1861-1877 гадоў Напалеонам Ордай былі зроблены малюнкі сядзіб і храмаў Слонімшчыны. Прыязджаў мастак, а можа, і некаторы час і жыў, у 65-гадовага сваяка Пятра Апалінар'евіча Орды ў Дзеравянчыцах.

Напалеон Орда — чалавек, які спыніў час алоўкам. Яркае ўяўленне пра радавую капліцу Ордаў у Дзеравянчыцах нам дае малюнак, які быў выкананы мастаком у перыяд паміж 1861-1877 гадамі. Малюнак зроблены алоўкам, падмаляваны акварэллю. Неагатычнай капліцы Ордаў у Дзеравянчыцах пашанцавала захаваць першасны выгляд, у той час, як унікальны палац Альфрэда Слізня ў маёнтку Дзявяткавічы застаўся выключна ў рабоце мастака, выкананай у 1861-1877 гадах. Наступная карціна Напалеона Орды прысвечана Жыровіцкай Крыжаўзвіжанскай царкве. На зваротным баку малюнка надпіс: *"8 верасня 1876 года. Жыровічы, Царква ступні і Галгофы; губерня Гродзенская, месца дзейнасці біскупа Язафата Кунцэвіча".* Падчас падарожжа на Слонімшчыну Напалеон Орда зрабіў замалёўку палаца Пуслоўскіх у Альбярціне, на адваротным баку малюнка ён падпісаў: *"24 траўня 1877 года, палац Пуслоўскіх. Альбярцін, уласнасць Францішка Пуслоўскага і Леанціны Влодэк".* Графічны малюнак мастака прысвечаны знакамітай фабрыцы сукна ў Альбярціне.

*Заканчэнне ў наступным нумары*

●Святлана Брайчук



*Дзявяткавічы. Палац Слізняў. 1861-1877 гг. Малюнак Напалеона Орды*



*Палац Пуслоўскіх. Альбярцін. 24 траўня 1877 года. Малюнак Напалеона Орды*

# Пра слонімскі гандаль у 1920-я гады

"СК" працягвае знаёміць чытачоў з фірмамі, якія існавалі ў нашым горадзе ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя. У папярэдняй серыі матэрыялаў былі змешчаныя спісы крамаў і аб'ектаў грамадскага харчавання, якія польскія ўлады ўнеслі ў гандлёвы рэестр у 1925 годзе.* Яны друкаваліся ў афіцыйным бюлетэні Міністэрства юстыцыі "Obwieszczenia Publiczne: dodatek do Dziennika Urzędowego Ministerstwa Sprawiedliwości". Там падаваліся дадзеныя пра ўладальнікаў, адрасы, спецыялізацыя, але самае цікавае — год заснавання. Некаторыя фірмы існавалі ў Слоніме з канца XIX стагоддзя. У гэтым нумары змяшчаем звесткі пра фірмы Слонімшчыны, якія былі ўключаныя ў гандлёвы рэестр у 1926 годзе.



"Franciszek Wągrocki". Кавярня і гандаль вяндлінай. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвая плошча (Тэатральная), будка № 60. Уласнік — Францішак Вангроцкі. Жыў па вуліцы Жыровіцкай (цяпер — Карла Маркса), 108.

"Dawid Wołkomirski". Кавярня-кандытарская. Год заснавання — 1923. Слонім, вуліца Мінская (цяпер — Савецкая), 74. Уласнік — Давід Валкамірскі. Жыў там жа.

"Sora Wołkomirska". Гандаль абуткам. Год заснавання — 1903. Слонім, Гандлёвая плошча, будка № 5. Уласніца — Зора Валкамірская. Жыла па вуліцы Школьнай, 2.

"Aron Wołkan". Гандаль абуткам. Год заснавання — 1923. Слонім, вуліца Сянкевіча (цяпер — Першамайская), 10. Уласнік — Арон Волкан. Жыў там жа.

"Stefanja Zagostin". Кавярня-кандытарская. Год заснавання — 1926. Слонім, Гандлёвая плошча, 37. Уласніца — Стэфанія Загосцін. Жыла па вуліцы Доўгай (цяпер — Касманаўтаў), 9.

"Józef Zakhejm". Выраб будаўнічых матэрыялаў. Год заснавання — 1910. Слонім, вуліца Шаптыцкага (цяпер — адзін з участкаў вуліцы Янкі Купалы ці прылеглых вуліц паміж мастамі), 48. Уласнік — Юзэф Закхэйм. Жыў там жа.

"Anastazja Zosimowicz". Гандаль спажывецкімі таварамі, тытунёвымі вырабамі і півам. Год заснавання — 1923. Вёска Міжэвічы. Уласніца — Анастасія Засімовіч. Жыла там жа.

"Szejna Maranc". Гандаль галантарэйнымі таварамі. Год заснавання — 1922. Слонім, гандлёвыя рады, № 124. Уласніца — Шэйна Маранц. Жыла па Аптэчным завулку, 1.

"Mowsza Płytnik". Кандытарскія вырабы. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Шаптыцкага, 6. Уласнік — Моўша Плытнік. Жыў там жа.

"Złata Pejsachowicz". Гандаль спажывецкімі таварамі і мясам. Год заснавання — 1925. Жыровічы Жыровіцкай гміны. Уласніца — Злата Пэйсаховіч. Жыла там жа.

"Leje Rabinowicz". Гандаль пісьмовымі матэрыяламі. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Сянкевіча, 25. Уласнік — Лея Рабіновіч. Жыў там жа.

"Rochla Rakowicka". Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1913. Слонім, вуліца Сянкевіча, 6. Уласніца — Рохля Ракавіцкая. Жыла там жа.

"Menasza Ratner". Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1903. Слонім, вуліца Ружанская, 3. Уладальнік — Менашэ Ратнер. Жыў па вуліцы Жыровіцкай, 30.

"Chana Ratner". Гандаль спажывецкімі таварамі. Вёска Гавенавічы Шылавіцкай гміны (цяпер — вёска Падгорная Баранавіцкага раёна). Год заснавання — 1924. Уладальніца — Хана Ратнер. Жыла там жа.

"Dawid Reznik". Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1911. Слонім, вуліца Сянкевіча, 4. Уласнік — Давід Рэзнік. Жыў па вуліцы Берагавой, 14.

"Rejzla Różańska vel Pines". Гандаль галантарэйнымі таварамі і рыбай. Год заснавання — 1912. Слонім, гандлёвыя

*Працяг на ст. 10*

# Пра слонімскі гандаль у 1920-я гады

*Працяг, пачатак на ст. 9.*

рады, № 95. Уласніца — Рэйзла Ружанская альбо Пінэс. Жыла па вуліцы Абалонь, 50.

"Josel Rybacki". Гандаль збожжам. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Віленская, 25. Уласнік — Ёсель Рыбацкі. Жыў там жа.

"Pinchus Rabinowicz". Гандаль мясам. Год заснавання — 1925. Жыровічы Жыровіцкай гміны. Уладальнік — Пінхус Рабіновіч. Жыў там жа.

"Józef Reznikowski". Кнігарня. Год заснавання — 1908. Слонім, вуліца 3 Мая (цяпер — Чырвонаармейская), 1. Уласнік — Юзэф Рэзнікоўскі. Жыў па вуліцы Студэнцкай, 42.

"Morduch Reznicki". Гандаль шклом і посудам. Год заснавання — 1923. Слонім, Гандлёвая плошча, 13. Уласнік — Мардух Рэзніцкі. Жыў па вуліцы Ружанскай, 6.

"Marja Sadownik". Гандаль спажывецкімі таварамі. Слонім, вуліца Доўгая, 27. Год заснавання — 1925. Уласніца — Марыя Садоўнік. Жыла па вуліцы II Турэмнай, 35.

"Chaja Soferowicz". Гандаль галантарэйнымі таварамі. Год заснавання — 1912. Слонім, гандлёвыя рады, № 116. Уласніца — Хая Сафэровіч. Жыла па вуліцы Бернардынскай, 44 (цяпер — Васі Крайняга).

"Franciszka Skowrońska". Кавярня-кандытарская і гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1926. Слонім, Гандлёвая плошча, будка № 56. Уласніца — Францішка Скаўронская. Жыла па вуліцы Доўгай, 30.

"Doba Skudzicka". Гандаль глінянымі гаршкамі. Год заснавання — 1924. Слонім, вуліца Сянкевіча, гандлёвыя рады, № 78. Уласніца — Доба



Скудзіцкая. Жыла па вуліцы Падгорнай (цяпер — Сінічкіна), 16.

"Izaak Słowatycki". Гандаль гатовым адзеннем. Год заснавання — 1926. Слонім, Гандлёвая плошча, будка № 55. Уласнік — Іссак Славатыцкі. Жыў па вуліцы Панятоўскага, 25 (цяпер — Пушкіна).

"Sender Stołowicki". Гандаль гадзіннікамі. Год заснавання — 1917. Слонім, вуліца Сянкевіча, 29. Уласнік — Сендэр Сталавіцкі. Жыў у Кафлёвым завулку, 3.

"Marja Stankiewiczowa". Гандаль тытунёвымі вырабамі. Год заснавання — 1925. Жыровічы. Уласніца — Марыя Станкевіч. Жыла там жа.

"Eugenjusz Tkaczew". Гандаль спажывецкімі таварамі і тытунёвымі вырабамі. Год заснавання — 1924. Жыровічы. Уласнік — Яўген Ткачоў. Жыў там жа.

"Abram Talkowski". Набыццё і продаж быдла. Год заснавання — 1924. Слонім, вуліца Дамба (цяпер — Агінскага), 20. Уласнік — Абрам Талькоўскі. Жыў там жа.

"Josel Urynowski". Продаж шкур. Год заснавання — 1920. Слонім, вуліца Андрэеўская (на яе месцы цяпер знаходзіцца рынак), 2. Уласнік — Ёсель Урыноўскі. Жыў па вуліцы Ружанскай, 10.

"Hirsz Szapiro". Кнігарня. Год заснавання — 1906. Слонім, Гандлёвая плошча, 5. Уласнік — Гірш Шапіра. Жыў там жа.

"Lejzer Szapiro". Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1924. Слонім, Гандлёвая плошча, будка № 17. Уласнік — Лейзер Шапіра. Жыў па вуліцы Жыровіцкай, 44.

"Dawid Szmajewski". Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1922. Слонім, вуліца Парадная, гандлёвыя рады, № 66. Уласнік — Давід Шмаеўскі. Жыў па вуліцы I Берагавой, 13.

"Mera Szuszan". Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1922. Слонім, гандлёвыя рады, № 35. Уласніца — Мэра Шушан. Жыла па вуліцы Шаптыцкага, 50.

"Aron Szczaryński". Кавярня-кандытарская і піўная. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвая плошча, 14. Уласнік — Арон Шчарынскі. Жыў там жа.

"Małka Epsztejn". Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца 3 Мая, 20. Уласнік — Малка Эпштэйн. Жыў там жа.

*Працяг у наступным нумары*

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш

*На здымках Рамана Вішняка міжваенны Слонім і слонімцы.*

**Слонімскі гандаль у сярэдзіне 1920-х гадоў // Слонімскі край, 2018, № 1. Студзень. С. 14-15; № 2. Люты. С. 14-15; № 3. Сакавік. С. 18-19; № 4. Красавік. С. 18-19.*

# Грамадскі транспарт з’явіўся ў Слоніме ў 1929 годзе

У кастрычніку сёлета споўніцца 90 гадоў грамадскаму транспарту ў Слоніме. Адлікам стала стварэнне сталага аўтобуснага маршрута. Ён праходзіў ад вайсковых казармаў па вуліцы 3 Мая (цяпер — Чырвонаармейская) да цэнтра горада і далей да чыгуначнага вакзалу, а пасля — у Альбярцін, які ў склад Слоніма яшчэ не ўваходзіў (хаця разважанні пра неабходнасць яго “паглынання” ў мясцовай прэсе з’яўляліся). Па такім жа маршруце аўтобус ехаў назад. “Навагрудскае жыццё” пісала, што транспарт быў даступны самым бедным слонімцам.*

Аднак адразу ж узнікла праблема — на аўтобусных прыпынках не было раскладу руху, і патэнцыйныя пасажыры не ведалі, калі ж чакаць прыбыцця аўтобуса. Даводзілася спадзявацца на “выпадак”. Да таго ж прыпынкі не асвятляліся, на што таксама скардзіліся слонімцы.

Адным з “прымітыўных” аўтобусных прыпынкаў (а хутчэй “аўтобусная станцыя”) у 1929-м быў арганізаваны магістратам у арцы паміж гандлёвымі радамі, якія падзялялі вуліцы Сянкевіча і Міцкевіча (цяпер гэта адна вуліца — Першамайская). Менавіта каля яго спыняліся міжгароднія аўтобусы. Яны прыязджалі на вуліцу Сянкевіча, а ад’язджалі з Міцкевіча. На прыпынку не было асвятлення і нават падлогі, на што скардзіліся пасажыры.

Безумоўна, адзін аўтобусны маршрут не мог стварыць сур’ёзнай канкурэнцыі рамізнікам і таксістам.

●Сяргей Ёрш

**Komunikacja autobusowa w Słonimie // Życie Nowogródzkie, 1929, № 299, 30 кастрычніка.*






**Komunikacja autobusowa w Słonimie**

Przed kilku dniami wprowadzona została w Słonimie stała komunikacja autobusowa. Jedyny obecnie kursujący autobus biegnie linją koszary—miasto—dworzec—Albertyn i z powrotem, dając możność ludności



*Рамізнікі на вуліцы Міцкевіча каля гандлёвых радоў і аўтобуснага прыпынку*

УСПАМІНЫ

# “Вобраз Леўчыка застаўся ў маёй памяці чысты такі і пранікнёна беларускі”

Вясной 1990 года ад свайго земляка і старэйшага сябра з Мінска Янкі Саламевіча (1938 — 2012) атрымаў ліст, у якім ён паведаміў, што ў сваім сямейным архіве адшукаў раней невядомыя ўспаміны мужа паэткі Ларысы Геніюш Янкі Геніюша (1902 — 1979) пра паэта, публіцыста, калекцыянера, мастака і музыканта Гальяша Леўчыка (1880 — 1944). Гэтыя ўспаміны Янка Геніюш напісаў у 1975 годзе.

Гальяш Леўчык жыў у Слоніме і меў аднапакаёвую кватэру ў Варшаве. Летам ён быў у родным горадзе, а зімой часцей за ўсё знаходзіўся ў польскай сталіцы, дзе меў працу. І ў Слоніме, і ў Варшаве ў яго быў вялікі архіў беларускіх старадрукаў, пісем, кніг беларускіх і польскіх літаратараў пачатку XX стагоддзя, калекцыі паштовак, музычных інструментаў, карцін, рукапісаў. Ён дапамагаў Івану Луцкевічу ствараць беларускі музей і архіў у Вільні. Гальяш Леўчык вёў вялікую перапіску амаль з усімі беларусамі свету, любіў іх сустракаць і вітаць у сябе дома.



*Гальяш Леўчык*

У гады Другой сусветнай вайны немцы на Пятралевіцкай гары каля Слоніма расстралялі жонку Гальяша Леўчыка Зосю Ляўковіч, а сам паэт загінуў у Варшаве ў 1944 годзе. Усе сабраныя калекцыі шчырага беларуса са Слоніма зніклі бясследна.

Успамін Янкі Геніюша пра Гальяша Леўчыка вельмі каштоўны. У ім добра паказаны слонімскі літаратар і калекцыянер, як асоба. Аўтар канкрэтна і шчыра ўспамінае тое, што ён пра яго ведаў і бачыў. Гэта яшчэ адна невядомая старонка ў біяграфію аднаго з пачынальнікаў беларускай літаратуры першай паловы XX стагоддзя.

Прапаную ўспамін Янкі Геніюша пра Гальяша Леўчыка нашым чытачам.

●Сяргей Чыгрын

Усе нумары гісторыка-краязнаўчага месячніка “Слонімскі край”, якія выйшлі на працягу 2016-2019 гадоў, можна знайсці на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат”: http://kamunikat.org/

## Успамін пра Гальяша Леўчыка

Пра Гальяша Леўчыка ведаю няшмат. Пазнаёміўся я з ім і ягонай жонкай Зосяй недзе ў 1930-я гады ў Слоніме. Дакладна не памятаю гэтай даты. Трапіў я да іх пару тыдняў пасля іх вяселля, запрошаны ягонай жонкай, якая мела сваякоў у Зэльве — нашых добрых знаёмых. Якое было маё здзіўленне, калі, увайшоўшы ў хату, убачыў на сцяне партрэцік Гальяша Леўчыка ў баранняй шапцы і каўняры — той самы, што ў "Чыжыку беларускім".

Гальяш Леўчык меў тады нейкіх 50 ці праз 50 гадоў. Жонка была малодшая і даволі прыгожая жанчына, якая прывяла Леўчыку з сабой у хату дзве свае сваячкі-сіраты, якімі ён заапекаваўся і яны жылі разам з імі.

Гальяш Леўчык быў вельмі жывы, рухавы, хараша іграў на гітары і пяяў. Пяяў ён з глыбокім пачуццём, пранікнёна. Мне асабліва запамяталася песня "Мне трэба ўмярці, а жыў яшчэ так мала". Іграў ён яшчэ на нейкай свісцёлцы накшталт акарыны, і гэта таксама ў яго хараша атрымлівалася. Увесь белы быў, але як жа малады духам!

Невялічкая хата ўся была застаўлена кніжкамі на стэлажах і вельмі цікавай беларускай керамікай, купленай ім на кірмашах — было яе якіх 20 дэкаратыўных, непаўторных экземпляраў.



*Янка Геніюш*

Пасля мілага пачастунку, асабліва духовай яго часткі, мы хадзілі з ім яшчэ доўга па Слоніме, заходзілі да яго знаёмых. Ён мне распавядаў, як цікава пазнаёміўся са сваёй жонкай. Прачытаў недзе абвестку ў газеце пра тое, што дзяўчына напісала аповесць з беларускага жыцця і звяртаецца, каб нехта дапамог яе выдаць, бо сама не мае на гэта сродкаў. Леўчык адгукнуўся на такую справу і папрасіў прысланць яму рукапіс. Дзяўчына прывезла яму рукапіс асабіста і ён захапіўся болей аўтаркай, чым рукапісам, што ў хуткім часе скончылася шлюбам. Аб далейшай долі таго рукапісу, на жаль, не ведаю.

Мне вельмі і хацелася часцей яго бачыць і гутарыць, але я тактоўна стараўся не наносіць лішніх візітаў. Аднак яшчэ пару разоў мы з ім бачыліся. Ён звяртаўся да мяне, маладога студэнта-медыка, за рознымі парадамі ў гэтай галіне. Хутка мы з ім развіталіся, бо мне трэба было ехаць у Прагу канчаць амаль без грошай у чужым краі сваю вучобу.

Едучы ў Прагу, я заехаў да іх у Варшаву — апрача хаткі ў Слоніме, мелі яны там невялікую кватэру, усю застаўленую кніжкамі, сярод якіх было шмат беларускіх. Паказваў ён мне тады вельмі хараша выдадзеную метадычную "Божую ліру" на беларускай мове. Казаў, што рабіў якраз для яе пераклады. Я толькі заўважыў, што гэтая кніжка была напісана надта добрай беларускай моваю.

Даў ён для мяне тады старую газету на беларускай і рускай

*Працяг на ст. 14*

# “Вобраз Леўчыка застаўся ў маёй памяці чысты такі і пранікнёна беларускі”

*Працяг, пачатак на ст. 12-13*

мовах,якуювыдавалібеларускія студэнты ў Петраградзе (назвы не памятаю). І яшчэ даў мне вайсковы статут на беларускай мове, выдадзены ў Лодзі палякамі ў свой час. Гэтыя дзве рэчы я аддаў у Пражскі беларускі архіў, які існаваў пры славянскім архіве, бо лічыў, што там яны лепей захаваюцца.

Болей я з Гальяшом Леўчыкам не сустракаўся. Калі я ажаніўся і да мяне прыехала ў Прагу жонка з сынам, мы атрымалі яшчэ ад Леўчыка пару кніжак на роднай мове аб выхаванні дзіцяці. Гэта было даўно, ды можа не ўсё захавала памяць, але вобраз Гальяша Леўчыка застаўся ў маёй памяці чысты такі і пранікнёна беларускі.

Чуў я ад людзей, што ў яго варшаўскую маленькую кватэрку ў час вайны трапіла нямецкая бомба. Было гэта, як казалі, у яго адсутнасці. Так што нічога яму не ўдалося выратаваць. Жонку ягоную, кажуць, расстралялі немцы ў час вайны ў Слоніме, у адной з аблаваў на людзей. Дзе пахаваны Леўчык — не ведаю і чуць мне пра гэта не давялося. Кароткае было маё знаёмства з ім, але памяць пра яго я захаваў праз усё жыццё. Часта ўспаміналіся ягоныя словы:

*Хто адрокся сваіх,*
*І стыдацца нас стаў*
*І прыліп да чужых, –*
*Каб ён свету не знаў!..*

●Янка Геніюш

# Трагедыя Ноя




22 траўня 1929 года ў Слоніме скончыў жыццё самагубствам вядомы мясцовы чыноўнік, ветэрынарны лекар Ной Снісарэнка. Ён быў пахаваны на Ружанскіх могілках. На яго магіле захаваўся помнік з вялізным праваслаўным крыжом.

Снісарэнка не быў слонімцам. Ён прыехаў у наш горад у пачатку 1920-х гадоў. Ной Снісарэнка нарадзіўся 22 ліпеня 1880 года ў Алупцы ў Крыме. Ён скончыў ветэрынарны інстытут і сельскагаспадарчую акадэмію, яшчэ ў царскія часы на сваёй малой радзіме працаваў аграномам і ветэрынарным лекарам. Пасля лютаўскай рэвалюцыі і бальшавіцкага перавароту ў Крыме шмат разоў змянялася ўлада, праводзіліся рэпрэсіі. Снісарэнку ўдалося вырвацца з паўвострава і дабрацца да Польшчы.

Бежанец спыніўся ў заходняй Беларусі, якая ў той час была пад польскай акупацыяй. Ной Снісарэнка спрабаваў знайсці тут для сябе і сваёй сям’і прытулак, а магчыма і новую радзіму. Восенню 1921-га Снісарэнкі спыніліся ў Дзятлаве. Ной працаваў па спецыяльнасці. У красавіку 1924-га ён атрымаў прызначэнне ў Слонім, быў павятовым ветэрынарным лекарам. У пачатку 1925 года здарылася трагедыя — памерла дачка Вера.

Ной Снісарэнка быў моцным чалавекам. Ён вытрымаў тады, перажыў бяду. А з 1926-га актыўна ўключыўся ў грамадскую дзейнасць. Быў сябрам павятовага сейміку, стварыў сельскагаспадарчы аддзел. Актыўных людзей было мала, і Снісарэнка браў на сябе ўсё новую і новую грамадскую працу. У лістападзе ён быў абраны кіраўніком Таварыства абароны айчыннай прадукцыі ў Слоніме. Калегі адносіліся да яго з сімпатыяй.

Аднак знайшліся нядобразычліўцы, якім не падабалася актыўнасць чужынца, рускага эмігранта. Гэта маглі быць польскія чыноўнікі ці сілавікі, прысланыя на Слонімшчыну з Польшчы. Яны пісалі скаргі і даносы на Ноя Снісарэнку, а ён перажываў. А ў нейкі момант не змог больш трываць здзекаў і ўчыніў суіцыд.

На пахаванне прыйшлі не толькі сваякі і калегі, але і прадстаўнікі амаль усіх грамадскіх арганізацый, ды і простыя жыхары Слоніма і раёна.

●Генадзь Гурскі

# Кукуруза



У другой палове 1950-х — пачатку 1960-х Савецкі Саюз ахапіла "кукурузная ліхаманка". Савецкі кіраўнік Мікіта Хрушчоў, "падглядзеўшы" амерыканскі досвед, вырашыў яго перанесці ў сваю краіну. Ён спадзяваўся з дапамогай кукурузы вырашыць праблему недахопу збожжа і кармоў. Адбылася пераарыентацыя сельскай гаспадаркі на гэтую культуру, пад яе аддавалі лепшыя землі. Пры гэтым не ўлічваліся кліматычныя ўмовы рэгіёнаў, якасць насення і г. д. Затое ў СМІ развязалі сапраўдную істэрыю, агітуючы за кукурузу.

Праект Хрушчова скончыўся катастрофай: спадзяванай ураджайнасці дасягнуць не ўдалося, а ў некаторых рэгіёнах ураджай загінуў, у тым ліку і з-за няякаснага насення. У 1962-1963 гадах у краіне стала не хапаць хлеба, месцамі з'явіліся хлебныя карткі. Савецкаму Саюзу давялося пачаць закупкі збожжа ў замежжы. Восенню 1964 года Мікіту Хрушчова адсунулі ад улады, "кукурузная ліхаманка" скончылася.

У тыя часы быў папулярны анекдот:

*— Мікіта Сяргеевіч, а мой тата кажа, што вы не толькі спадарожнік, але і сельскую гаспадарку запусцілі.
— Скажы свайму тату, што я не толькі кукурузу саджаю.*

●Генадзь Гурскі

ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
СЛОНИМСКОГО РАЙОННОГО СОВЕТА ДЕПУТАТОВ ТРУДЯЩИХСЯ

РЕШЕНИЕ № 94

от 13 марта 1959 года гор.Слоним

Об утверждении инспекторов по кукурузе.

В целях выращивания высоких урожаев зеленой массы кукурузы в 1959 году исполком районного Совета депутатов трудящихся – р е ш а е т:

1.Утвердить в каждом колхозе ответственного инспектора по возделыванию кукурузы согласно приложению № 1.

2. Возложить обязанности на инспектора по кукурузе – организацию и контроль за проведением комплекса агротехнических мероприятий по возделыванию кукурузы.

ПРЕДСЕДАТЕЛЬ ИСПОЛКОМА
СЛОНИМСКОГО РАЙОННОГО СОВЕТА
ДЕПУТАТОВ ТРУДЯЩИХСЯ – /И.ЯРОШЕВИЧ/



СЕКРЕТАРЬ ИСПОЛКОМА
СЛОНИМСКОГО РАЙОННОГО СОВЕТА
ДЕПУТАТОВ ТРУДЯЩИХСЯ /С.ШУКАЛОВ/

just.grodno.by

# Усеславянскі камітэт дапамагаў Вялікакракоцкай сельскай бібліятэцы

У сваім хатнім архіве знайшоў цікавы дакумент. Гэта ліст з Масквы са Усеславянскага камітэта за 1947 год. Яго падпісалі адказны сакратар Усеславянскага камітэта гвардыі-палкоўнік Мачалаў і рэдактар камітэта Майбарада. Ліст быў адрасаваны Аляксандру Жыткевічу, які інвалідам вярнуўся з Другой сусветнай вайны і з 1947 года быў загадчыкам Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкі імя Янкі Купалы.




*Аляксандр Жыткевіч у Вялікай Кракотцы сустракае гасцей на 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы, 1972 г.*



ВСЕСЛАВЯНСКИЙ КОМИТЕТ

11 марта 1947 г.

Уважаемый тов. Житкович !

По просьбе Григория Романовича Окулевича мы высылаем для Вашей библиотеки имени Янки Купалы двухтомник Некрасова, полное собрание сочинений М.Ю.Лермонтова - 5 томов и полное собрание сочинений Л.Н.Толстого - 12 томов. Одновременно высылаем 15 книжек на белорусском языке, отобранных также для Вашей библиотеки Г.Р.Окулевичем. Перечень книг в прилагаемом списке.

Получение просим подтвердить письмом.

Примите пожелание успехов в Вашей работе

Ответственный Секретарь Всеславянского Комитета Гвардии-полковник (В.Мочалов)

Редактор Всеславянского Комитета (Г.Майборода)

На жаль, гістарычная бібліятэка, якая была створана ў 1927 годзе, праіснавала толькі 80 гадоў. Цяпер яе няма. Але на працягу гэтых гадоў сельская бібліятэка ў Вялікай Кракотцы была беларускім культурным і нацыянальным асяродкам не толькі на Слонімшчыне, але і ва ўсёй Беларусі. Бібліятэка з'яўлялася першай культурнай установай ў Беларусі, якой было нададзена імя беларускага песняра Янкі Купалы. Сюды на працягу дзесяткаў гадоў прыязджалі амаль усе пісьменнікі Беларусі, некалькі разоў была жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, жонка Валянціна Таўлая Лідзія Сяргееўна, пісьменікі з Расіі і Украіны.

Пасля вайны ў бібліятэку пастаянна дасылаліся кнігі, пісьмы, паштоўкі, падарункі. Сярод усіх лістоў — было і паведамленне са Усеславянскага камітэта на імя Аляксандра Жыткевіча. У пісьме наступны тэкст:

*Паважаны тав. Жыткевіч!*

*Па просьбе Рыгора Раманавіча Акулевіча мы высылаем для Вашай бібліятэкі імя Янкі Купалы двухтомнік Някрасава, поўны збор твораў М. Ю. Лермантава – 5 тамоў і поўны збор твораў Л. М. Талстога – 12 тамоў. Адначасова высылаем 15 кніжак на беларускай мове, выбраныя таксама для Вашай бібліятэкі Р. Р. Акулевічам. Пералік кніг у далучаным спісе. Калі атрымаеце, просьба пацвердзіць пісьмом. Прымíце пажаданні поспехаў у Вашай працы.*

Дарэчы, Рыгор Акулевіч быў адным з заснавальнікаў бібліятэкі ў Вялікай Кракотцы. У той час ён жыў у Канадзе, але пра родную бібліятэку і землякоў не забываў. Цікава было б ведаць, якія беларускія кнігі даслаў у бібліятэку Рыгор Акулевіч? На жаль, спіс тых кніг пакуль не адшукаўся.

●Сяргей Чыгрын

КНІГІ ПРА СЛОНІМ

# У нашым краязнаўстве не можа быць “зашмат кніг”

*Чыгрын С. Гістарычная мазаіка Слонімшчыны. — Мінск: Кнігазбор, 2019. — 140 с.*




Сяргей Чыгрын выдаў чарговую кнігу пра Слонім. На вельмі якаснай паперы, прыгожа аздобленую. Яе прыемна ўзяць у рукі. Кніга можа быць выдатным падарункам. Нават для турыста, які не ведае беларускай мовы — у выданні некалькі соцень ілюстрацый.

Здаецца, што Чыгрын устанаўлівае рэкорд, які ўжо ніхто не зможа абнавіць. І ў нацыянальным маштабе, і ў мясцовым. Ужо шмат гадоў ён рэгулярна выдае краязнаўчыя, літаратуразнаўчыя, паэтычныя кнігі. Іх дзясяткі і дзясяткі. І калі захавае такі тэмп і ў далейшым, толькі ўмацуе свае дасягненні. У колькасці кніг.

Даводзілася чуць меркаванне, што раней кнігі па гісторыі Слоніма выходзілі рэдка і былі падзеяй. Цяпер жа, калі іх выдаецца так шмат, адбылася “дэвальвацыя”. Ужо нікога не здзівіш новай кнігай, яе не шукаюць у кнігарні, каб зачытаць да дзірак… У пэўнай ступені “дэвальвацыя” адбылася, гэта так. Слонімскія аматары гісторыі ведаюць, што калі не ў гэтым, дык у наступным месяцы выйдзе новая кніга Сяргея Чыгрына. Яна не можа не выйсці… Аднак на сітуацыю можна паглядзець і інакш. Колькі кніг было выдадзена пра Слонім і Слонімшчыну да Чыгрына? Дзясяткі два, у асноўным на рускай і польскай мовах. Сяргей Мікалаевіч ужо выдаў у разы тры больш. І ўсё на беларускай мове.

У беларускім краязнаўстве не можа быць “зашмат кніг”. Наша гісторыя — гэта суцэльныя “белыя плямы”. Працы ў даследчыкаў-энтузіястаў у бліжэйшыя дзесяцігоддзі менш не стане. А іх мала. І толькі Чыгрын знаходзіць магчымасці рэгулярна выдаваць свае кнігі. У іншых краязнаўцаў нямала матэрыялаў ляжыць у “шуфлядах”.

Папулярызацыя гісторыі — гэта важная справа. І якраз Сяргей Чыгрын ёй актыўна займаецца — праз выпуск кніг, праз іх прэзентацыі, сустрэчы са школьнікамі. Наклады невялікія, але ў цяперашні час гэта ўжо не праблема, бо ёсць інтэрнэт. І Чыгрын яго актыўна выкарыстоўвае, пашырае кола сваіх чытачоў. Відаць, у будучыні краязнаўцы будуць вымушаны цалкам сыйсці ў інтэрнэт і іншыя навінкі, якія яшчэ будуць вынайдзены. Папяровыя кнігі, калі і застануцца, дык як элітарны прадукт. Гэта будуць грунтоўныя выданні, падобныя да энцыклапедый, даведнікаў ці падручнікаў. І пакуль той час не надыйшоў, Сяргей Чыгрын напаўняе нашы бібліятэкі кнігамі, якімі будуць карыстацца і нашы нашчадкі. Таму важна,

# У нашым краязнаўстве не можа быць “зашмат кніг”

*Працяг, пачатак на ст. 17*

каб яны былі якасныя.

Але вернемся да “Гістарычнай мазаікі Слонімшчыны”. Структурна яна складаецца са здымкаў і зацемак да іх. Некаторыя з тэкстаў інфарматыўныя, у іншых выключна разважанні аўтара. Скразная тэма — бязмежная любоў да малой радзімы, да нашага старажытнага Слоніма. Частка фотаздымкаў, паштовак ужо вядомыя, іншыя Чыгрын апублікаваў упершыню. Калі гэты скарб сабраны разам, пад адной вокладкай, ён уражвае. Уражвае тым, колькі мы страцілі. Існуе памылковае меркаванне, што цэнтр Слоніма захаваўся амаль нязменным. Насамрэч, да нашых дзён “дажылі” толькі асобныя будынкі.

А цяпер пра памылкі ці недакладнасці, якія патрапілі ў кнігу. Першая ж зацемка называецца *“Гісторыя Слоніма пачынаецца з 1036 года”*. С. Чыгрын згадвае, што ў савецкія часы на ўездзе ў горад стаялі шыльды з такой датай заснавання нашага горада. І лічыць яе праўдзівай. Але ж яшчэ краязнаўца Васіль Супрун пісаў, што яна памылковая.[1] У “СК” сёлета былі дзве публікацыі на гэтую тэму.[2] Дзіўна, што Чыгрын іх праігнараваў. Бо памылка ў выніку трапіла ў кнігу (у некалькі зацемак), яна бянтэжыць чытачоў: каму давяраць?

Адна з зацемак мае назву *“Руіны палаца Агінскіх…”* (С. 7-8). Але на здымку ніяк не могуць быць руіны гэтага палацу. Іх папросту ўжо не існавала на час, калі ён быў зроблены. Гэта руіны зусім іншага будынку.

Шмат паўтораў у назвах зацемак: *“Гандлёвыя рады”*, *“Каля гандлёвых радоў”*. Можа




лепш было б іх аб’яднаць? Бо аўтар зноў і зноў нагадвае, дзе яны былі і што не захаваліся. Таксама па кнізе хаатычна раскіданыя зацемкі пра кляштар бернардзінак, пра “браму-званіцу”, пра былую Гандлёвую плошчу. У адным месцы адзін і той жа храм падпісаны *“Касцёл Божага цела, 1939 год”* (С. 56), у іншым — *“Царква ў цэнтры Слоніма, 1939 год”* (С. 66). На 68-й старонцы змешчаны дзве паштоўкі з аднолькавым надпісам па-польску “гарадскі парк”. Аўтар іх падпісвае па-рознаму: у адным выпадку — парк, у іншым — сад. І піша асобныя зацемкі пра адзін і той жа аб’ект. Атрымліваецца, неяк дзіўнавата.

Двойчы апублікаваны адзін і той жа здымак (на 27-й і 44-й старонках). У адным выпадку подпіс сведчыць, што гэта *“капліца на рынку, 1916 год”*, у іншым — *“рабочы батальён, 1917 год”*. А пазней будзе яшчэ адна зацемка *“Капліца на Рынкавай плошчы, 1916 год”*. Нягледзячы на такую ўвагу, аўтар не паведамляе, што гэта была за капліца, калі і ў гонар каго яе пабудавалі, ды хто яе знішчыў.

На адной старонцы чытаем, што фотамайстэрня Вайнштэйна знаходзілася на вуліцы Панятоўскага, на наступнай — на Параднай. Чытачы могуць падумаць, што аўтар памыліўся, а не што адрас мяняўся ці былі два “офісы”.

*“3 верасня 1915 года кайзераўскія войскі занялі Слонім”,* — піша Сяргей Чыгрын (С. 25). Але гэтая дата найхутчэй недакладная. Яна прысутнічае ў раённай кнізе “Памяць”, але там жа ёсць і іншая дата — 15 верасня. [3]

Піша пра малюнкі Слоніма, выкананыя нейкім ананімным нямецкім мастаком (С. 42). Але ж “СК” пісаў яшчэ ў пачатку 2017 года, што аўтар гэтых малюнкаў — Людвіг Вільгельм Марцін Марыс![4]

Аўтар згадвае паштоўку з памылкай, выдадзеную кнігарняй Любоўскага (С. 76-77). На ёй напісана па-польску, што гэта Шчара, а насамрэч — малы канал Агінскага. Пры гэтым Чыгрын не заўважае яшчэ адну памылку: на паштоўцы напісана *“Слонім. Рака Шара”.* Ёсць фота, якое падпісана *“Паром на Шчары”* (С. 76-77). Але калі прыглядзецца, дык бачым сплаў

лесу, а не паром.

Чыгрын знайшоў цікавы здымак брукавання цяперашняй Першамайскай вуліцы ў 1930-я гады (С. 78). Але не згадаў, што гэта ўкладваецца тая самая трылінка, якая часткова захавалася да нашага часу.

Сяргей Чыгрын згадвае надпіс над *“уваходам у падзямелле”* былога касцёла бернардзінцаў. Але ён зусім не доказ, што падзямелле існуе, як піша аўтар (С. 57). Проста трэба было гэты надпіс прачытаць. У ім згадваецца фундатар храма.

Адзін здымак падпісаны наступным чынам: *“Вучні і настаўнікі СШ №1 г. Слоніма падчас вайны”* (С. 93-94). Ён мне добра вядомы, бо калісьці яго паказваў краязнаўца Васіль Супрун. Насамрэч на фота бачым навучэнцаў настаўніцкай семінарыі і выкладчыкаў. Супрун назваў мне прозвішчы многіх з гэтых людзей. Настаўніцкая семінарыя падчас нямецкай акупацыі сапраўды знаходзілася ў будынку СШ № 1.

Аўтар піша пра скульптуры львоў у Альбярціне, якія нібыта выканаў італьянец Антоніа Канова (С. 121). І ніякай рэакцыі на крытычную публікацыю ў “Газеце Слонімскай” Тодара Рабчыка, які сцвярджаў, што гэта копіі, а знакаміты італьянец да львоў не мае ніякага дачынення. [5] Рабчык прапаноўваў памылку выправіць і не паўтараць, *“каб яна больш не блытала слонімцаў і гасцей горада”*. На жаль, і ў новай кнізе Чыгрына яна прысутнічае.

Нельга сказаць, што Чыгрын не рэагуе на заўвагі чытачоў, якія каментуюць яго публікацыі ў сацсетках. Часам ён аператыўна выпраўляе свае тэксты, прыбірае з іх недакладнасці, ці дапаўняе. Але бывае, што слушныя заўвагі прапускае. Яскравы прыклад — у кнігу трапіў здымак з подпісам “На беразе канала Агінскага, 1958 год” (С. 105-106). У тэксце да фота аўтар піша, што *“здымак быў зроблены з Баранавіцкага моста”*. І гэта пры тым, што раней, пасля публікацыі гэтага фота на старонцы Чыгрына ў *ВК*, нехта з чытачоў напісаў яму пра памылку. Бо гэта фота рабілі з моста па Савецкай вуліцы. Незразумела, чаму краязнаўца не выправіў відавочную памылку. І яна ўжо застанецца ў кнізе.

Затое нарэшце выпраўлена памылка, якая была ў некалькіх ранейшых кнігах Сяргея Чыгрына. Здымак вуліцы з вялікім крыжом у яе цэнтры падпісаны Замкавая, а не Татарская (С. 89).

Новая кніга Чыгрына безумоўна карысная і важная. Напрошваецца яе другое выданне, але ўжо з праўкамі.

●Сяргей Ёрш


*[1] Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 34.*

*[2] Гурскі Г. Пра знак “Слонім. Заснаваны ў 1036 годзе” // Слонімскі край, 2019, № 1(35). Студзень. С. 18; Ёрш С. Хто ж першы згадаў пра “палі Слонімскія” у 1040 годзе? // Слонімскі край, 2019, № 2(36). Люты. С. 1,3-6.*

*[3] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. — Мінск: БЕЛТА, 2004. С. 13, 149. Таксама гл. публікацыі на тэму: Герасімчык В. Слонім у гады Першай сусветнай вайны // Газета Слонімская, 2009, № 32, 5 жніўня. С. 11; Ёрш С. Пераправа нямецкіх войск праз Шчару каля Рышчыцаў у 1915 годзе // Слонімскі край, 2017, № 9(19). Верасень. С. 18.*

*[4] Ёрш С. Слонім і слонімцы на малюнках нямецкага мастака // Слонімскі край, 2017, № 1(11). Студзень. С. 1, 3.*

*[5] Рабчык Т. Альбярцінскія львы — не арыгінальныя скульптуры італьянца Антоніа Канова? // Газета Слонімская, 2019, № 4. 23 студзеня. С. 6.*




# Пра дзяцей вайны



72

Жывая гісторыя

Слонімскі дзетдом: недзіцячыя выпрабаванні

Самым маленькім выхавальнікі давалі прозвішчы самі: Пчолка, Іскра, Кудзелька... Бо сваіх сапраўдных дзеці не памяталі.

Многія дзеці савецкіх вайскоўцаў, не паспеўшы ў чэрвені 1941-га эвакуіравацца, на чацвёрты дзень вайны апынуліся ў глыбокім тыле. Піша слонімская настаўніца Святлана Брайчук.

У мінскім часопісе "Наша гісторыя" (2019, № 5(10). Травень. С. 72-75) апублікаваны артыкул настаўніцы і краязнаўцы Святланы Брайчук "Слонімскі дзетдом: недзіцячыя выпрабаванні". Нельга без хвалявання чытаць пра лёсы дзяцей, якія ў 1941 годзе, пасля нямецкага ўварвання ў СССР, страцілі бацькоў. Яны патрапілі ў наш горад, былі сабраныя ў дзетдоме. Не ўсе перажылі нямецкую акупацыю. Некаторыя дзеці пасля гадаваліся ў сем'ях слонімцаў і засталіся ў Слоніме. Іншыя раз'ехаліся па ўсім былым Савецкім Саюзе.

Дарэчы, сёлета ў жніўні споўніцца 60 гадоў з часу першага злёту слонімскіх дзетдомаўцаў у Альбярціне.

●Арцём Салейка

# 15-ы "Паланэз" у Слоніме







25 траўня ў нашым горадзе прайшоў юбілейны рэгіянальны фестываль музыкі і танцаў "Паланэз". Свята пачалося ў парку каля канала Агінскага (на ім прысутнічала кіраўніцтва Слонімскага раёна), пасля яго ўдзельнікі прайшлі па горадзе да цэнтру культуры і адпачынку. Там і прайшла конкурсная праграма, у якой паўдзельнічалі дзясяткі мясцовых калектываў і гасцей з розных куткоў заходняй Беларусі, а таксама з Польшчы і Літвы.

●Генадзь Гурскі

*Фота: Слонімскі веснік*

"Слонімскі край" — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com